# Ад “стваральніка” Канстытуцыі

Адпаведна Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь:

*“Дзяржава, усе яе органы і службовыя асобы дзейнічаюць у межах Канстытуцыі і прынятых у адпаведнасьці зь ёю актаў заканадаўства. Забесьпячэньне правоў і свабодаў грамадзянаў Рэспублікі Беларусь зьяўляецца найвышэйшаю мэтаю дзяржавы. Дзяржава адказная перад грамадзянінам за стварэньне ўмоваў для свабоднага і годнага разьвіцьця асобы. Грамадзянін адказны перад дзяржавай за няўхільнае выкананьне абавязкаў, якія ўскладзеныя на яго Канстытуцыяй.”*

У час падрыхтоукі да экзамэну “Чалавек. Грамадзтва. Дзяржава”, я сутыкнулася з гэтымі тэмамі ўпершыню. Тады я ня цалкам усьведамляла, што вывучаю. Не было жыцьцевага вопыту і разуменьня рэаліяў, а цяпер ёсьць. Гэта быў 2005 год, я паступіла ў Беларускі Інстытут Правазнаўства. Калі мне ня здраджвае мая дзявочая памяць, зараз пачатак 2013 году. Прайшло 8 гадоў, а воз, як той казаў, і сёньня там. Дык давайце ж высьветлім, якой дзяржаваю на самой справе ёсьць Беларусь?

Рэспубліка Беларусь – унітарная, дэмакратычная, сацыяльная, прававая дзяржава. Гучыць прыгожа, праўда? Маецца Канстытуцыя, а ў выніку маюць кожнага зь яе грамадзян. Давайце спынімся на асноўных аспэктах Канстытуцыі РБ.

Тэрмін “дэмакратыя” ў дзяржаве зьяўляецца лаянкай, і за яго можна атрымаць пэўную колькасьць сутак за парушэньне грамадзкага парадку. А потым высьветліцца, што вы аказвалі супраціў пры затрыманьні. А гэта ўжо зусім іншая гісторыя, якая цяне на гады. Зьдзейсьніў ты “злачынства” – нясі адказнасьць. Да слова, у Беларусі самая вялікая колькасьць такіх “злачынстваў” прыпадае на час выбараў. Усе пачынаюць лаяцца, за што і пападаюць у месцы ня вельмі далекія, але і ня блізкія. Міністэрства аховы здароўя, звяртаюся да вас! Можа прышчэпкі трэба рабіць не ад грыпу, а ад слоўнага нетрыманьня? У першую чаргу аматарам вымаўляць такія абразьлівыя выразы, як: “дэмакратыя”, “свабода”, “свабодныя выбары”, “права на...” (тут сьпіс можа быць вельмі доўгі). І можа тады ўсё на самой справе будзе добра? І зьнізіцца колькасьць “злачынстваў” у краіне? Не, на гэта Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь пайсьці ня можа. Няма сродкаў, так мовіць. Сродкаў дзяржава ня мае, а новы “Майбах” у “некага” ёсьць. Дарагі і паважаны “нехта”, народ просіць: “Падзяліся ўсьмешкаю сваей...”. Альбо дай тое, што гэтаму народу прапісана па Канстытуцыі! Вы ж ня ведаеце, распавядаю: ёсьць кніжачка такая, маленькая, чырвоненькая, але зь вялікім сэнсам! Хоць вас і лічаць стваральнікам гэтага дакумэнта, але складаецца ўражаньне, што ў руках вы яго не трымалі. Рэкамэндую пачытаць.

Дык вось, ёсьць там артыкул аб тым, што кожны чалавек мае права на годны ўзровень жыцьця. Даражэнькі, я канешне разумею, што вашае жыцьцё, гэта не жыцьце, а існаваньне: асабістыя “Майбах”, самалет, асабістая рэзыдэнцыя. А народу, яму што, яму ж хлеба трэба. Так?

З усяго гэтага вынікае, што Канстытуцыю вы пісалі для сябе, і толькі вы маеце права на годны ўзровень жыцьця. (Што вы яе ў сапраўднасьці пісалі, я сумняюся, бо вельмі ўжо мова там правільная).

Ідзем далей. “Свабода думкі”

Апрыёры, мая галава, што хачу тое і думаю. А не, чалавек павінен думаць так, як “стваральнік” Канстытуцыі: “У нас усё добра”. І паўтараць гэта замест малітвы перад сном, ды гучней, каб і сьцены ведалі, што вы думаеце правільна.

“Кожнаму гарантуецца свабода поглядаў, перакананьняў і іх свабоднае выказваньне”.

Слова не верабей, выляціць ня зловіш. Слова ты ня зловіш, затое зловяць цябе. Не рэкамэндуецца выказваць “няправільныя” думкі “няправільнымі” словамі. У Беларусі і на гэта ёсьць артыкул – прававая ж дзяржава.

Атрымоўваецца, што ёсьць свабода і таго, і гэтага, і ўсе такія свабодныя, што з-за гэтай “свабоды” камэраў у турмах не хапае. Дык замест таго, каб лядовыя палацы па краіне будаваць, лепш стварылі б умовы для “свабодных”. А іх “свабодных” шмат, больш за 9 мільёнаў.

Вынік атрымоўваецца адзін: у Беларусі не прававая дзяржава, і не сацыяльная, і не дэмакратычная. Дык якая ж тады? Складаецца ўражаньне, што беларускі народ жыве у адной дзяржаве, а паважаны Цар Усея Беларусі у іншай. Ці можа дзеяньне Канстытуцыі распаўсюджваецца толькі на рэзыдэнцыю ў Драздах? Паважаны Васпан Бацюшка, за 18 гадоў Вашага цараваньня, можа надыйшоў час хаця б прыгоннае права адмяніць?

Вось так свабодна падумаеш, свабодна скажаш, свабодна напішаш. А потым падумаеш: добра, што тэстамэнт ёсьць. Але хацелася б, каб нашчадкам засталіся ў спадчыну не перапоўненныя камэры “свабодных”, а свабода па разуменьню, свабода па праву і правы па Канстытуцыі.

**Т. АМЭРЫКАНКА**

# Сцэны з жыцьця пры позьнім лукашызме

За часы лукашызму (якія многім здаюцца вечнымі) мы шмат чаго нагледзеліся і наслухаліся. Але такога яшчэ не было. Сьнежань 2012 г. прайшоў пад знакам “барацьбы супраць алькагалізму”. Старэйшыя людзі спыталіся самыя сябе: “Можа вяртаюцца гарбачоўскія часы? Зноў вінаграднікі высякаць будуць?” Яны прыгадалі, што сярод іншага “антыалькагольная кампанія” была адным са знакаў блізкага правалу гарбачавізму і ўсяго СССР. Вядома, што тады, на прыканцы 1980-х г.г., беларускае насельніцтва адказала імпэрскаму рэжыму нябачаным дагэтуль ўздымам самагонаварэньня. Беларусы супраціўляліся, як маглі і як прывыклі...

Раптам Лукашэнка і ягоная камарыльля пачалі рабіць шумныя заявы пра шкоду танных вінаў (на народнай мове “чарніла”). 18 гадоў свайго валадараньня рэжымшчыкі шкоды ня бачылі (бо пілі зусім іншы алькаголь), і вось дадумаліся ўрэшце. Рэжым зрабіў нават запыт у адпаведны інстытут Акадэміі навук РБ, каб там навукоўцы зрабілі аналіз узораў “чарніла”. Людзі ў белых халатах аналіз зрабілі і паведамілі, што ў “чарніле” ўтрымліваюцца вельмі шкодныя для здароўя рэчывы і дададзены нават мэтылавы сьпірт. Дарэчы, тое, што рэжым шмат гадоў таму загадаў падліваць у “чарніла” тэхнічны сьпірт “у малых дозах” (а гэта ёсьць забойчае для чалавечага арганізму рэчыва), было неаднаразова агучана сумленнымі беларускімі навукоўцамі і патрыётамі-франтаўцамі. Ніхто не зьвярнуў на гэта ўвагу, “чарніла” працягвала ліцца ракой.

Што ж адбылося? Адкуль такі клопат пра здароўе працоўных? Цьвярозыя аналітыкі выказваюць меркаваньне, што злачынная мэтылава-чарнільная акцыя антыбеларускага рэжыму разьвівалася з посьпехам. Атрутным пітвом зьвялі са сьвету многія тысячы здаровых і актыўных мужчын і жанчын, у мільёнаў іншых падарвалі здароўе і волю да супраціву злу. Але паўстала статыстычная праблема. Бюракратычныя цынікі рознага ўзроўню пачалі паведамляць з раёнаў і вобласьцяў у рэжымны цэнтар: рабы пачалі выміраць, няма каму працаваць на фабрыках і ў полі! Якім бы ня быў зьнішчальным і антычалавечым лукашызм, але нават яму патрэбныя работнікі, якіх можна эксплюатаваць і на якіх трымацца. Вось і паўстала новая “генэральная лінія партыі”. Толькі беларусы ня вераць, што злачынцы “адумаліся”

**Янка БАЗЫЛЬ**
**www.narodnaja-partyja.org**

# Урокі Віетнамскай вайны

***Заканчэньне з бачыны 1***

эканамічных зонах". Нялічаныя сотні тысяч загінулі ад голаду ў выніку прымусовай калектывізацыі сельскай гаспадаркі на поўдні Віетнаму. Больш за мільён уцекачоў сталі "людзямі ў лодках", якія на дробных і не прыдатных для адкрытага мора плытах і чаўнах пускаліся шукаць ратунку ад камуністычнага рэжыму ў навакольных краінах Паўднёва-Ўсходняй Азіі. Сотні тысяч зь іх загінулі ад крушэньняў і голаду, былі забітыя піратамі, страцілі жыцьцё ў жорсткіх ўмовах лягероў уцекачоў у Тайляньдзе, Малайзіі, Інданэзіі. Лік ахвяраў камунізму ў Віетнаме йдзе на мільёны.

Сёнешнія кіраўнікі Віетнаму ў катастрафічных умовах "сацыялістычнай эканомікі" хапаюцца за кітайскі досьвед, пераймаюць капіталістычную сыстэму гаспадараньня. Дзеля чаго ж былі тады ўсе тыя бессэнсоўныя ахвяры, дзесяцігодзьдзі "вызвольнай вайны", рэкі сьлёз і крыві?

Цікава, ці даведаліся калі пра гэта актывісты "руху супраць вайны ў Віетнаме" – Джон Кэры, Эбі Гофман, Джэйн Фонда, Бэла Абцуг, Шырлі Чызам, Рон Ковік ды тысячы іншых? У кожным разе, ніхто з "цымэрвальдзкіх патрыётаў" Амэрыкі, што адкрыта спрыялі ворагам Вольнага сьвету ды агітавалі за камуністычны захоп Віетнаму, не пакаяўся і публічна не адмовіўся ад сваіх дзеяў і выказваньняў. У школьных ды ўнівэрсытэцкіх падручніках усяляк рамантызуецца антываенны рух 1960-х–1970-х, удзельнікі якога езьдзілі да камуністычных бонзаў у Ханой, клялі амэрыканскіх вайскоўцаў, зьбіралі подпісы пад віншаваньнямі Ха Шы Міну, ды ўсяляк абплёўвалі сваю краіну. Дагэтуль дэзэртыры кшталту Біла Клінтана падносяцца як героі, а тыя, што вярнуліся з вайны ў Віетнаме ўважаюцца як скарыстанае капіталістамі начыньне і як верагодныя вайсковыя злачынцы.

Разам з тым навукоўцы на падставе новых архіўных дадзеных, інтэрвію, зьвестак з крыніцаў у віетнамскіх камуністычных колах сьцьвярджаюць, што Амэрыка і Вольны сьвет былі напачатку 1970-х блізкія да перамогі, але свае "дабрадзеі" зь лявацкай пятай калёны ўсадзілі нож у плечы палітычным ды вайсковым высілкам уратаваць Віетнам ад камунізму.

Усе, хто не прымае артадаксальнай левай догмы пра "брудную вайну ў Віетнаме" – робяцца ня толькі аглабельна крытыкаваныя ды абкіданыя балотам, але і трапляюць пад фактычную забарону на прафэсію.

Так сталася, напрыклад, з Маркам Моерам, адносна маладым амэрыканскім дасьледчыкам, які дэталёва разглядаў разнастайныя аспэкты Віетнамскай вайны і прыйшоў да высновы, што, нягледзячы на шматлікія хібы, памылкі й недахопы, ЗША вялі прынцыповую і досыць эфэктоўную палітыку ў Віетнаме, якая дала свой плён, узмоцніла антыкамуністычныя сілы, аслабіла й вынурыла камуністаў і змусіла іх у 1972 годзе да перамоваў. Моер з найлепшымі крэдэнцыямі акадэмічнымі ня меў крэдэнцыяў лявацкіх – і ў выніку гадамі ня мог знайсьці працы. Некаторыя прадстаўнікі ўнівэрсытэтаў не хавалі, што прычынаю адмовы прыёму на працу ёсьць пагляды Моера і ягоная навуковая манаграфія. Кніга, якую М. Моер напісаў па выніках сваіх досьледаў, называецца "Адкінуты трыюмф". У ёй аналізуецца як ход вайны, стратэгія й тактыка бакоў, гэтак і ўплыў, які займелі наіўныя й даверлівыя ў дачыненьні да камуністаў і агрэсыўна-антыпатрыятычныя да свайго ўраду і войска новыя "цымэрвальдаўцы".

Як памятаем, Цымэрвальд – месца правядзеньня ў 1915 годзе канфэрэнцыі сацыялістаў, на якой дэлегаты на чале з Леніным падтрымалі крокі да паразы ўласных краінаў у сусьветнай вайне, што пазьней прывяло да рэвалюцыі, катастрофы й нялічаных ахвяраў у Расеі – і таксама ў Беларусі. Менавіта ў Беларусі ў 1917 годзе, страціўшыя дысцыпліну і чалавечы воблік расейскія вайсковыя часткі, панічна адкатваючыся ад наступаючых немцаў, дэзэртуючы цэлымі дывізіямі, прайшліся агнём і мячом па мясцовым беларускім насельніцтве, забіваючы, палячы, гвалцячы, рабуючы "братоў-славянаў", "белых росаў".

Ці не падобную пляніду рыхтуюць для Амэрыкі новыя "цымэрвальдаўцы", дзеці "вірлівых 1960-х", плён доўгіх дзесяцігодзьдзяў індактрынацыі й прамываньня мазгоў на ўнівэрсытэцкіх кампусах, у масавых сродках, у мастацтве й поп-культуры? Адзін зь іх нават узьбіўся ў прэзыдэнцкае крэсла, стаў "вярхоўным галоўнакамандуючым". Сёнешняя сытуацыя ў Амэрыцы трывожна нагадвае перадрэвалюцыйную Расейскую імпэрыю (а таксама Рымскую імпэрыю апошніх гадоў яе існаваньня – але пра гэта пры іншай нагодзе). Як у тагачасным расейскім грамадзтве, эліты й, наагул, высокаадукаваныя клясы Амэрыкі стаяць за рамантычны сацыялізм, пры якім для ўсіх зь невядома якога рога, але "будзе ўсяго многа". Абагаўляюць таксама хібна зразуметую "сацыяльную дзяржаву", што, нібыта, гарантуе роўнасьць і дбае пра "нябогаў і небаракаў". Праблема ў тым, што і тады, і цяпер роўнасьць разумеецца не як ўзьняцьце ўсіх да вышэйшага ўзроўню, але як сьцягваньне на ніжэйшы, маўляў, абы аднолькава. І тады, і цяпер падтрымка існуючага ладу, патрыятызм успрымаюцца як вар'яцтва, у лепшым выпадку – як дрэнны густ. І тады, і цяпер мроі пра абстрактнае "царства дабрабыту" не падпіраюцца ніякімі рацыянальнымі тэорыямі, калькуляцыямі ды выкладкамі. І так як ніводзін расейскі падданы ня ўзьняў голас у 1917 годзе ў падтрымку манархіі, што горай-лепей была існуючым і дзейным мэханізмам захаваньня адноснай стабільнасьці грамадзтва – ня варта чакаць, што ў сёнешняй Амэрыцы народ уздымецца на абарону, скажам, Кангрэсу або Канстытуцыйнага Суду, калі б, уявім сабе, левы папулісцкі прэзыдэнт сваім дэкрэтам незаконна распусьціў бы іх як "перашкоду на шляху дасягненьн народнага дабрабыту".

Індывідуалізм і прадпрыймальнасьць, што стагодзьдзямі рухалі Амэрыку наперад, робяцца ўсё менш папулярныя, і "амэрыканская мара" адсоўваецца на карысьць дзяржаўных падачак.

Адкуль "растуць ногі" гэткай агіднай, гэткай небясьпечнай зьявы? Шмат хто з гісторыкаў сыходзяцца на думцы, што ўсё ідзе ад узьнікненьня гіпі, контар-культуры ды антываеннага руху – адным словам, ад часоў Віетнамскай вайны. Колішнія студэнты-радыкалы, што састарыліся, але так і не пасталелі – цяпер узначальваюць унівэрсытэцкія катэдры, рэдакцыі газэтаў і тэлеканалаў, кінакампаніі, урадавыя дэпартамэнты, юрыдычныя фірмы, піар-кампаніі. Яны фармуюць і кантралююць грамадзкую думку. А плёнам іх дзейнасьці ёсьць жменя крыкуноў кшталту атныглябалісцкіх пратэстантаў ды лайдакоў з "Акупуй Ўол-Стрыт", якія цяпер заціхлі, але ня зьніклі.

Ці можа здарыцца, што жменя агітатараў-радыкалаў заваліць Амэрыку так, як жменя бальшавікоў заваліла ў свой час некалькі імпэрыяў? Хто ведае. Ідзе спаборніцтва ідэалёгіяў, і рацыянальная, праверaная, маючая рэальныя вынікі ідэалёгія контарінтуітыўна прайграе дэмагагічнай ідэалёгіі прывіднай роўнасьці, а на самой справе – лайдацтва. Найсумней тое, што гэта ўжо шмат разоў адбывалася ў гісторыі – з трагічнымі, з апакаліптычнымі вынікамі. Але ўсе тыя мірыяды спэцыялістаў-гісторыкаў у амэрыканскіх унівэрсытэтах, інтэлектуалы, "валадары думак" чамусьці ня бачаць небясьпекі ў такой гульні з агнём, якая пачалася ў 1960-я, у часы акцыяў супраць Віетнамскай вайны. Непавага да сваіх каранёў, сваёй краіны, сваёй будучыні моцна б'е як бумэрангам, і таму на 40-годзьдзе згубленай перамогі над камунізмам у Віетнаме варта задумацца пра трагедыю ігнараваньня гісторыі, пра небясьпеку легкадумнага стаўленьня да сваёй спадчыны. Нам, беларусам, гэта каштуе вельмі дорага. Але калі ахвярай гэтага зробіцца Амэрыка – тады пад пагрозаю зьнішчаньне апынiцца ўвесь цывілізаваны сьвет.

***Віталь ЗАЙКА***

## Каляды ў ваколіцах Нью-Ёрку

*Заканчэньне з бачыны 1*

часу павінна была быць дома. Першым на покуці садзіўся гаспадар, каля яго па старшынству садзіліся сыны. Па другі бок сядзела гаспадыня з астатнімі дзецьмі. На стале павінна было быць найменш 12 посных страваў, як селядзец, рыба, грыбныя стравы, бліны з макам, аўсяны кісель і, нарэшце, куцьця. Кожны мусіў пакаштаваць гэтыя стравы. Падсохлы верх куцьці аддавалі курам, каб добра несьліся. Зачарпнуўшы вялікую лыжку куцьці, гаспадар стукаў у вакно, клікаў мароз "ісьці куцьцю есьці", каб не марозіў веснавыя пасевы і расаду. Тады ўсе сямейнікі маглі частавацца калляднымі прысмакамі.



Пасьля гаспадар выцягваў з-пад абруса сяніну. Калі выцягвалася доўгая, то лічылася, што й лён будзе доўгі й добры. Добра звараная куцьця служыла прыкметаю багатага ўраджаю і дабрабыту сям'і; калі ноччу шмат зорак – летам будзе многа грыбоў, калі сьнег – будуць раіцца пчолы. На другі дзень з 25 сьнежня пачыналі хадзіць калядоўшчыкі. Дзень Новага году ў вёсках быў больш вядомы пад назвай "васільле" пад вонкавым уплывам царкоўнага календара (1 студзеня – дзень сьв. Васіля Вялікага). Вечар перад Новым годам (другая куцьця) называлі багатым, шчодрым. Кожная гаспадыня старалася сустрэць Новы год у поўным дастатку. У гэты ж вечар шчадравалі дзяўчаты, а хлопцы "засявалі" – з зычаньнямі пасыпалі кругом зярнятамі. Іх ахвотна прымалі й адорвалі.

Трэйцяя куцьця (перад Вадохрышчам), як і першая, называлася "поснай" або "галоднаю, ці "вадзяною". У гэты вечар гаспадар браў гаршчок з куцьцёю, хлеб і крыж, зроблены з дрэва, і крапілам з жытніх каласоў асьвячаў ваду, хату й іншыя будынкі. Адначасова крэйдаю маляваў крыжы на вокнах, сьценах, дзьвярах і варотах. Гэта называлася "запісаць каляды", каб абараніцца ад нячыстае сілы", "чараў", і захаваць здароўе ўсім, хто жыве ў гэтым двары.

Вярнуўшыся ў хату, гаспадар ставіў гаршчок з куцьцёю на стол, і ўся сям'я пачынала вячэраць. Стравы падаваліся такія ж, як і ў першую куцьцю.

Каляднымі вечарамі гадалі на свой лёс. Моладзь ладзіла вечарыны з гульнямі ў "Цярэшку" зь песьнямі й танцамі, прыглядаючыся ў роздуме: "А ці ня гэта мой суджаны? А ці не мая нарачоная?"

Мы ж ладзілі Каляды пасьля добрага застольля, пры тым бяз моцных напояў, у гасьціннай хаце Пётры й Алены Рыжых, адведаўшы надзвычай смачнай трэцьцяй "поснай" куцьці. Першым ішоў зьвездар Юры Кавальчук. Ён нёс зьвязду, якая была сымболем Божага нараджэньня і адначасова нараджэньня сонца, якое пачало ўжо ісьці на вясну й да лета, саграваючы зямлю ды павялічваючы кожны дзень на некалькі сьветлых хвілінаў. Затым за адсутнасьцю павадыра (дзеда), які ўмеў бы складна гаварыць і вадзіць "казу ці казла", ішла я, побач – Аленка Рыжая ды Аленка Кавальчук. Дзеткі Рыжых – сямігадовы Янка й Алесік пяці гадоў, выконвалі ролю механошаў, прымаючы падарункі ад гаспадароў, ды Марцінка, якому толькі праз некалькі месяцаў споўніцца тры гадочкі, жвава тупацеў наперадзе ў вышыванцы, весела падпяваючы разам з усімі дзе трэба: " Саўка ды Грышка ладзілі дуду...", што выклікала асаблівбае замілаваньне ў гаспадароў, да якіх мы заходзілі.

Калі гаспадары адчынялі дзьверы, ці то былі гэта гішпанцы, ці ірляндцы, а мо італьянцы ці ўкраінцы, мы пыталіся: "Добры вечар вам, ці радыя вы нам?" Калі тыя адказвалі, што рады, то дадавалі: " Калі вы нам рады, то й мы вам дапарады. Мусіця нам адразу каляду даць, ці скажаце засьпяваць?" Гаспадары прасілі засьпяваць, то для амэрыканцаў мы сьпявалі па-беларуску: "Ціхая ноч, сьвятая ноч, сьпіць усё, сьпіць даўно, толькі маці сьвятая ўсьцяж ціха ў люльцы калыша дзіця... ", – а тыя падпявалі нам па-ангельску. Ясна, што для амэрыканцаў нашыя песьні мы скарачалі, бо сэнс астатніх яны не разумелі, а калі пачынаўся рытуальны танец "казы або казла", чыю ролю выдатна выконваў Пётра Рыжы, і той падаў, то мой лямант: "О-яёй, каза ўпала, здохла, прапала! Каб каза ўстала – трэба даць ёй сала, на кожны ражок – піражок, а на хвасток – сыру кусок! Хутчэй дарыця, нас не барыця, бо кароткія сьвіткі – памерзьлі лыткі й кароткія кажушкі – павылазяць душкі!" Дзе была неабходнасьць, то Аленка Рыжая перакладала.

Нават суседзі-амэрыканцы ўжо добра засвоілі, што ў беларусаў ёсьць такое сьвята "Каляды", што не заходзяць калядоўшчыкі толькі да непаважных людзей, а калі да іх яны зайшлі, значыць гэта добра, і цэлы год у іх будзе шчасьлівым. Таму яны рыхтаваліся й чакалі беларускіх калядоўшчыкаў. Гаспадары з добразычлівым сьмехам выносілі пачастункі для дзяцей. Украінцы, расейцы й польская сям'я разумелі ўсё без перакладу.

Падворкі былі засыпаныя сьнегам. Калядны вечар быў ціхі зь мяккім марозцам. Маўклівыя зоры зьзялі зырка й урачыста.

Калядаваньне заняло каля чатырох гадзінаў. Маленькі Марцінка, вярнуўшыся дахаты, ўжо мала цікавіўся пачастункамі, толькі паўтараў: "Мама, мама, мама", бо стаміўся й хацеў спаць. А Янка з Алесікам па-гаспадарску агледзелі накалядаванае, сім-тым паласаваліся й заселі за канструяваньне "Лего", пакуль дарослыя за добраю размоваю пілі духмяную гарбату зь печывам і пірагамі з макам. Нібы вярнуліся на нейкі час у дзяцінства. Настрой быў сапраўды сьвяточны.

Шкада, што ў гэты раз з намі не было Сяржука Сокалава-Воюша зь сям'ёю і сям'і Алеся Вінакурава. Шкада ўсіх тых, хто ня ведае сваіх традыцыяў, знаходзяць сабе апраўданьні чаму ня мусяць іх ведаць, губляючы сваю культуру й частку сваёй беларускай душы, частку самога сябе.

**Валянціна ЯКІМОВІЧ**

# Новыя “Запісы БІНіМ”. Выпуск 35

Напярэдадні Новага году пабачыў сьвет чарговы выпуск пэрыёдыка “Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва”. Гэтым разам сабраныя рэдакцыяй матэрыялы прысьвечаныя беларускай літаратуры. У нумары публікуюцца тэксты Макса Шчура ды Ціхана Чарнякевіча, прысьвечаныя творчасьці Міхася Кавыля, Юрася Бабіча – адносна мовы Натальлі Арсеньневай, Арнольда Макміліна – пра сяброўства Васіля Быкава й Рыгора Барадуліна.




Таксама новыя “Запісы” рэпрэзэнтуюць публікацыю матэрыялаў да будучай кнігі публіцыстыкі Тамаша Грыба, артыкулы Антона Адамовіча ды Юркі Віцьбіча, прысьвечаныя рэпрэсіям ды антыбальшавіцкім паўстаньням у Беларусі, лісты Ларысы Геніюш да Натальлі Арсеньневай з 1944 г. ды Васіля Быкава да Зоры й Вітаўта Кіпеляў, успаміны Франца Кушаля і іншыя матэрыялы. Асобна варта адзначыць публікацыі, зробленыя паводле фондаў Беларускага Дзяржаўнага Архіву-Музэю Літаратуры й Мастацтва: тэкст Віктара Жыбуля, заснаваны на зборы пісьменьніка Зьмітра Віталіна ды агляд архіву Масея Сяднёва, зроблены Ціханам Чарнякевічам.

Да ліку адметных тэкстаў нумару трэба аднесьці першую публікацыю зробленага Антонам Адамовічам перакладу на беларускую мову камэдыі Мікалая Гогаля “Рэвізор” (публікацыя падрыхтаваная Віялетай Кавалёвай), а таксама – як адзначэньне юбілею клясыка – дзьве бібліяграфіі Максіма Багдановіча (у нямецкіх выданьнях ды на старонках газэтаў “Бацькаўшчына” й “Беларус”).

Традыцыйная рубрыка “Выданьні” прадстаўляе зробленую Лявонам Юрэвічам гісторыю стварэньня ды росьпіс нумароў аднаго з найбольш вядомых літаратурных пэрыёдыкаў паваеннай эміграцыі – часапіса “Шыпшына”. Своеасаблівым тэматычным працягам выступае тэкст Макса Шчура, прысьвечаны беларусіцы ў міжваенным праскім “Славянскім аглядзе”.

Асабліва цікавы сёлета запісаўскі “Музэй”, дзе прадстаўленыя эгадакумэнты Антона Адамовіча (як зь менскіх, гэтак і зь ньюёрскіх збораў), а таксама фотаархіў Юркі Віцьбіча, што ўтрымлівае арыгіналы рэдкіх здымкаў беларускіх даваенных літаратараў.

Заўсёдны “Кніжны агляд” у гэтым выпуску “Запісаў” таксама багаты. Тут прадстаўленыя больш за два дзясяткі беларускіх і беларусаведных выданьняў, што пабачылі ў розных краінах сьвету.

Новы нумар пэрыёдыка заканчваецца анонсам тэмы наступнага – эміграцыйныя калекцыі. Усіх, хто мае матэрыялы, прысьвечаныя калекцыянаваньню на эміграцыі, або самыя калекцыі, рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва.

***Натальля ГАРДЗІЕНКА***

# “Дзёньнік 1943—1947” Дзьмітрыя Сямёнава

*Сямёнаў, Дзмітры. Дзённік. 1943—1947. Мінск: Медысонт, 2012. — 334 с. (Бібліятэка часопіса “Беларускі Гістарычны Агляд”, 23)*

Час вайны, жыцьцё пад акупацыяй, бежанства ня надта спрыяюць для вядзеньня дзёньнікаў. Магчыма таму так мала засталося штодзённых запісаў тых, хто проста жыў у складаны й няпэўны ваенны час, запісаў, якія пішуцца для сябе й дзе занатоўваюцца звычайныя чалавечыя пачуцьці, побытавыя праблемы, дзе ня трэба думаць, як сваю асобу ці іншых паказаць лепей, чым ёсьць.

Менавіта такі рэдкі ці нават унікальны дзёньнік пабачыў сьвет у сэрыі “Бібліятэка часапіса “Беларускі гістарычны Агляд”. Ягоны аўтар — звычайны беларускі хлопец Дзьмітры Сямёнаў, што нарадзіўся ў 1926 г. у Менску ў сям’і эканамістаў. У часе нямецкай акупацыі жыў у родным горадзе, вучыўся ў школе, падпрацоўваў у гістарычным музэі разам з Антонам Шукелойцем. У сваіх запісах ваеннага часу юнак занатоўваў штодзённыя справы, пачуцьці, клопаты. Ён перагледзеў увесь рэпэртуар Менскага тэатру, фіксаваў ўражаньні ад кніг, кіно, асобаў. У нататках пішацца пра першае каханьне, здачу іспытаў, сьвяткаваньні ды іншыя падзеі насычанага юнацкага жыцьця.

У прыватным дзёньніку Дзьмітрыя Сямёнава можна знайсьці водгукі значных гістарычных падзеяў: выбуху ў Менскім гарадзкім тэатры, дзе загінуў сын Натальлі Арсеньневай Яраслаў, Другога Ўсебеларускага кангрэсу, выезду беларускай інтэлігенцыі на Захад улетку 1944 г. Тады, разам з Кушалямі, Калубовічамі, Шчагловымі, Кіпелямі, Савёнкамі ды іншымі, без бацькоў, але пад апекаю Антона Шукелойця, зьехаў зь Беларусі й аўтар запісаў. Ён не перапыняў свае нататкі і ў часе бежанства, распавядаючы пра бамбаваньні Бэрліну, бадзяньні па лягерох у пошуках прытулку, паўгалоднае існаваньне й радасьць ад прыходу амэрыканцаў.




Дзёньнік Дзьмітрыя Сямёнава паказвае падзеі вайны й першых паваенных гадоў вачыма беларускага юнака, які радаваўся й сумаваў, кахаў і крыўдаваў, а найбольш — імкнуўся знайсьці сваё месца ў жыцьці. Ён апынуўся ў асяродзьдзі сьведамай беларускай інтэлігенцыі, таму ў штодзённых запісах можна знайсьці цікавыя нататкі пра вядомых нацыянальных дзеячаў: Антона Адамовіча, Натальлю Арсеньневу, Франца Кушаля, Леаніда Галяка, Аўгена Калубовіча, Міколу Шчаглова-Куліковіча ды іншых. Гэтыя асобы паўстаюць таксама ў іх штодзённым жыцьці, у змаганьні з побытавымі праблемамі, у асаблівасцях міжасабовых і сямейных стасункаў. У выніку, беларуская эміграцыя першых паваенных гадоў бачыцца як бы зусім зблізку.

Запісы дзёньніка, што займаў шэсьць сшыткаў, ахопліваюць час ад 1 студзеня 1943 г. да 16 верасьня 1947 г. Сканчаюцца яны на прыняцьці Дзьмітрыем Сямёнавым важнай жыцьцёвай пастановы — ажаніцца. Праз ўвесь згаданы час ён быў у своеасаблівым пошуку спадарожніцы жыцьця, якую нарэшце знайшоў у беларускім асяродку ў Нямеччыне. Падзеі вясельля з Аляксандрай Сямёнавай (Заруцкай) не ўвайшлі ў дзёньнік, як і пераезд у ЗША, навучаньне ў Ратгерскім унівэрсытэце, праца хімікам. У Амэрыцы Сямёнаў, што памёр у 1982 г., няшмат кантактаваў зь беларускай грамадой. Магчыма таму пра ягоны дзёньнік так доўга нічога не было вядома. Для публікацыі яго перадала дачка Сямёнава Раіна, якая й фундавала выданьне. Архівіст Лявон Юрэвіч падрыхтаваў для друку тэкст, цікавыя камэнтары зрабіў таксама Вітаўт Кіпель, жменьку успамінаў пра аўтара напісаў знаёмы аўтара як раз з часоў, пра якія апавядае дзёньнік, Уладак Кушаль. У выніку атрымалася цікавае й якаснае выданьне, аздобленае здымкамі зь сямейнага архіву.

“Дзеньнік” Дзьмітрыя Сямёнава зьяўляецца ня толькі каштоўнай крыніцай па беларускай гісторыі. Ён — гэта яшчэ адно сьведчаньне таго, колькі цікавых, пакуль невядомых скарбаў, захоўваецца ў эміграцкіх архівах. Гэтыя скарбы толькі чакаюць свайго часу.

**Натальля ГАРДЗІЕНКА**

## КЭГЭБЭ

***Заканчэньне з бачыны 6***

сьледваць іх за думкі і палітычныя погляды, тым больш за беларускую культуру і размову па-беларуску.

На сёньняшні дзень істотна рэальна зразумець, што за сацыяльна-палітычная сыстэма і што за тып улады ўтварыўся ў Беларусі і Расеі, якія між імі дачыненьні і залежнасьць, якая мэта гэтае ўлады. Залежнасьць антыбеларускага рэжыму ад Масквы ёсьць мэтанакіраваная і штучна створаная. Яна зьяўляецца адною з прычынаў таго, што рэжым праводзіць у Беларусі тыповую акупацыйную палітыку, якая рэалізуецца ў хамскай беларусафобнай форме. Масква знайшла адпаведнага сабе сатрапа і будзе старацца падтрымліваць яго пастаянна.

Гісторыя чытае беларусам жорсткую лекцыю аб тым, што можа стацца з грамадзтвам, якое траціць нацыянальны гонар і павагу да самага сябе — да мовы, культуры, гісторыі. Гэта лекцыя, навука для людзей, якія думалі, што можна жыць толькі матэрыяльнымі інтарэсамі, існаваць індывідуальна, ня дбаючы пра калектыўную справу, дзяржаву, народ, культуру і нацыю.

Мы павінны, мусім асэнсоўваць гэты цяжкі час ужо цяпер, каб наблізіць будучыню, бо нельга нічога зрабіць, калі невядома, што ёсьць, што адбываецца і як з гэтым змагацца.

Час царызму і расейскай акупацыі быў для нас трагічным (пагібель паўстаньняў, вынішчэньне культуры). Час расейскага камунізму і савецкай акупацыі быў для нас апакаліптычным (генацыд, падзел краіны, мільёны забітых, выбіваньне эліты, адабраньне ў сялянаў зямлі, бязбожжа), цяперашні час цемры, час гэбізму застанецца ў нашай гісторыі (як я мяркую) часам ганьбы, часам ганебным. (Гэта калі вораг нікчэмны, а мы бясьсільныя. Цярпеньне ад нікчэмнасьці ёсьць ганебным.) Гэта страшней нават за апакаліпсіс і сьмерць.

Але час цемры таксама скончыцца. Мы мусім зразумець яго сэнс.

*18.01.2013 г.*

**Зянон ПАЗЬНЯК**

***www.narodnaja-partyja.org***

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Cogito, ergo sum armatus!

Амэрыканцы папраўілі ўсё, ну ці амаль усё тое дрэннае, што было ў старой Эўропе. Нават дзесяць запаведзяў перапісалі, а пасьля дадалі яшчэ сямнаццаць новых, і вядомыя яны пад назваю „Папраўкі да канстытуцыі ЗША”, або „Біль аб правох”. Першая запаведзь пра свабоду слова, а другая гаворыць: „Паколькі добра арганізаваная міліцыя ёсьць неабходнаю для бясьпекі свабоднай дзяржавы, то права грамадзянаў на захоўваньне і нашэньне зброі не павінна парушацца.”

Пасьля кожнай чарговай страляніны са сьмяротнымі ахвярамі, грамадзкасьць задумваецца над тым, ці ўсё ж такі другую запаведзь не парушыць. ЗША немагчыма, быццам бы, захапіць зь зямлі, менавіта дзякуючы пашыранасьці зброі. Дык а хіба хто калі намагаўся? Іншая справа, якім чынам улада намерваецца тыя пісталеты і стрэльбы ва ўзброенага насельніцтва канфіскоўваць? А калі б законапаслухмяныя грамадзяне аддалі па ўласнай волі, то ці аддаў бы крымінальны элемэнт, і хто тады будзе бараніць абязброенае насельніцтва? І гэтак далей і таму падобнае. А яшчэ, маўляў, нельга пагаджацца на тое, каб кожны мог разгульваць па вуліцы з прыладаю забойства. Дык хіба кожны мужчына не разгульвае з патэнцыйнай прыладай гвалту? Большасьць, апрача фэміністак, пагаджаецца, што прэзумпцыя невінаватасьці рэч сьвятая і абыдзьве прылады застаюцца на сваіх месцах. Здаецца, закавыка ў тым, што калі закон пачаў абавязваць, а было гэта ў далёкім 1791-м, то замест у стралялкі, зь мілагучнымі назвамі Doom (каюк) і Quake (трымценьне), дзеці гуляліся ў хованкі і клясыкі. Зрэшты той час быў нашмат цывілізаванейшы ня толькі ў гэтым.

**_Віталь ВОРАНАЎ_**

***Здымак узяты са старонкі:***
*www.commonsenseevaluation.com*




### Уплаты ў Згуртаваньне
Складкі й ахвяраваньні:

- **Т. Болт** ........................ **50**
- **І. Галавашка** ................ **50**
- **К. Кабановіч** ................ **50**
- **І. Куркіна** .................... **50**
- **А. Нікалайчук** ............... **50**

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*
**Чэкі выпісвайце на імя скарбніцы**
*Valentina Balashchenko.*

*Паважаныя **Юлія Лісоўская**, **Ксенія Проніна** калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**
адбудзецца **ў суботу 9-га лютага 2013 году.**

Месца правядзеньня сходу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да станцыі **Union Square**.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад Union Square па 15-й вуліцы на скрыжаваньні з Irving Place.*

***Заля на другім паверсе.***

Пачатак: **а 6:00-й** вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, ладжаных арганізацыяй, можна даведацца, наведаўшы ў інтэрнэце ўэбстаронку **pahonia.com***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

- **Я. Сапежынскі** ................ **50**
- **М. Белямук** .................... **30**
- **Т. Болт** .......................... **30**
- **І. Галавашка** .................. **30**
- **К. Кабановіч** .................. **30**
- **А. Копат** ........................ **30**
- **І. Куркіна** ...................... **30**
- **Ю. Малахаў** ................... **30**
- **І. Машкоўская** ............... **30**
- **А. Нікалайчук** ................ **30**
- **А. Пранцэвіч** .................. **30**
- **М. Уласава** .................... **30**

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь могуць усе зацікаўленыя даслаўшы аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***VIESTKI***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі з адзнакаю **“Весткі”** выпісвайце на імя **Valentina Balashchenko**.*